*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 9 (497) 28 ЛЮТАГА 2001 г.

## КАСЦЁЛ АБРАЗІЦЬ НЕМАГЧЫМА --
### сваю дурноту паказаць можна

На беларускім тэлебачанні нядаўна прайшоў фільм "Душехваты" у серыі фільмаў Ю. Азаронка. Аўтар узяўся за тэму пра дзейнасць Каталіцкага Касцёла ў свеце і на Беларусі, не ведаючы ні гісторыі Касцёла, ні яго душпастырскай дзейнасці. Гледачам адразу кідаецца ў вочы непрафесійнасць мантажу фільма і поўная адсутнасць логікі сюжэту.

Фільм уяўляе сабою мазаіку асобных эпізодаў з розных гістарычных кінастужак, калі за некалькі секунд змяняюцца кадры з фільмаў пра падзеі трынаццатага, шаснаццатага і дваццатага стагоддзяў. Напрыклад, аповед пра езуітаў (ордэн створаны ў 16 ст.) ілюструецца кадрамі з фільма "Александр Невский" (паказвае падзеі 13 ст.). Прымітыўныя ўстаўкі пра Рымскага Папу і каралёў, што, паводле пададзенага тэксту, цалуюць туфель, прымушаюць задумацца, ці ведае аўтар фільма, што калісьці, вельмі даўно, цалавалі крыж на туфлі, а не сам туфель.

У фільм пра Каталіцкі Касцёл уведзены кадры пра Я. Гайдара, Б. Ельцына, М. Гарбачова, якія да Каталіцкага Касцёла не маюць ніякага дачынення. Далей чамусьці сцвярджаецца, што згаданыя асобы, а таксама кароль Ягайла, знаходзіліся пад моцным уплывам сваіх жонак, таму выконвалі волю Захаду. Зусім недарэчы раптам пачынаецца гаворка пра НАТА (без якога, відаць, фільм не меў бы сваёй паўнаты), а затым магутнасць нашых Узброеных Сілаў ілюструецца вайсковым парадам.

Пагардлівае стаўленне не толькі да Каталіцкага Касцёла, але і да яго герархаў – Рымскага Папы, кардыналаў, біскупаў – прымушае нас выступіць з пратэстам супраць безгустоўнага, антыгістарычнага фільма, які прыніжае і зневажае наш народ, частка якога з'яўляецца католікамі, і вядзе да распальвання міжканфесійнай варожасці. Шкадуем, што беларускае тэлебачанне паказвае такога кшталту нізкапробныя прапагандысцкія фільмы, якія штурхаюць гледачоў у бездань невуцтва, цемрашальства, сляпой агрэсіі і нянавісці. Лічым недапушчальным паказ на БТ фільмаў, якія носяць антыдзяржаўны, антыграмадскі, антыбеларускі, антычалавечы характар.

19.02.2001. г.

*Анатоль Грыцкевіч, Мікола Лавіцкі, Уладзімір Конан, Адам Мальдзіс, Генадзь Сагановіч, Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.*

## ЗАЯВА
### Рэспубліканскай Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Рэспубліканская Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з трывогай і абурэннем адзначае, што ў апошні час на дзяржаўным тэлебачанні з небывалымі дагэтуль настойлівасцю і паслядоўнасцю ідзе выцясненне з вяшчання нашай роднай мовы. Беспадстаўна скасавана навучальнае тэлебачанне, такое патрэбнае для вясковых школ. Закрыты папулярныя перадачы "Роднае слова" і "Сядзіба". Спыніў выхад у эфір любімы мільёнамі аматараў беларускай песні тэлефестываль "Песню бярыце з сабой". Галоўная рэдакцыя літаратурна-драматычных праграм практычна наогул спыніла падрыхтоўку перадач, звязаных з гісторыяй Бацькаўшчыны, яе літаратурай і мастацтвам. Нават у традыцыйна беларускамоўных выпусках навін дыктары і журналісты дэманстратыўна пераходзяць на рускую мову. Новыя ж цыклы і праграмы, якія з'яўляюцца на БТ, амаль цалкам рускамоўныя.

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" лічыць гэткую практыку нядаўна прызначанага кіраўніцтва Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі грубым парушэннем Закона аб мовах, недапушчальным ігнараваннем правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь, 81,9 % якіх у час апошняга перапісу насельніцтва абвясцілі сябе беларусамі, а 85,6 % іх назвалі роднай мовай -- беларускую.

Мы рашуча патрабуем спыніць гвалтоўную русіфікацыю тэлевізійнага вяшчання ў нашай краіне, забяспечыць на практыцы мове карэннай нацыі яе дзяржаўны статус, вярнуць на блакітныя экраны любімыя гледачамі беларускамоўныя праграмы.

Заклікаем вышэйшыя дзяржаўныя органы Рэспублікі Беларусь тэрмінова прыняць неабходныя меры да кіраўніцтва Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, запатрабаваўшы ад яго строгага і поўнага выканання канстытуцыйных нормаў у дачыненні да нацыянальнай палітыкі і у прыватнасці, да месца і ролі беларускай мовы ў нашым грамадстве.

Як даўно заўважана, мова -- душа народа. І ставіцца да яе трэба з належнай павагай і ўвагай, асабліва калі гэта датычыць дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

**Рэспубліканская Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Суполка БелНДПУэнергапрам - 9.450р.
2. ААТ "Вялес-ЛТД" на правядзенне з'езду ТБМ - 100.000 р.
3. Пятроўская Ядвіга, Менск - 1.000р.
4. Каржанеўская, Менск - 2.000р.
5. Жытко Іван Ан. г. Камянец - 5.000 р.
6. Выдавецкае тав-ва "Хата" - 8.000 р.
7. ГА "Творчае згуртаванне "Святліца", Баранавічы - 5.000 р.
8. Кавалёва Тамара (Менск) - 1000 р.
9. Уладзімір Кацбярук (Менск) - 1000 р.
10. Авітыч Мікалай (Менск) - 1000 р.
11. Зубкевіч Іван (Маладэчна) - 5000 р.
12. Марголін І.Р. (Менск) - 1000 р.
13. Ермаловіч В.В. (Менск) - 1000 р.
14. Петруковіч В.І. (Менск) - 3000 р.
15. Будаўнік з Менску - 50. 000 р.
16. Рыбачок Пётр (Менск) - 3500 р.
17. Кановіч Алесь (Менск) - 5000 р.
18. Суполка "Рэфармацыя" (Менск) - 40$
19. Харытонаў Сяржук (Горадня) - 500 р.
20. Ашмянскі мясакамбінат - 200.000 р.
21. Казлоўская І.І. (Менск) - 500 р.
22. Ранцова Валянціна (Менск) - 500 р.
23. Шкірманкоў Ф. (Слаўгарад) - 2000 р.
24. Белаазёрская суполка ТБМ - 3000 р.
25. Міцкевіч Яўген (Менск) - 1200 р.

## Інфармацыйнае паведамленне Менскай абласной рады ТБМ імя Ф. Скарыны

4 лютага 2001 г. адбыўся сход Менскай абласной Рады ТБМ сумесна з рэвізійнай камісіяй. Былі разгледжаны наступныя пытанні:

- Зацверджаны тэзісы справаздачных дакладаў старшыні Рады сп. Банкевіча Генадзя і старшыні рэвізійнай камісіі сп. Паліводы Святаслава;
- Аб справаздачна-выбарчых сходах у раённых арганізацыях і суполках (у лютым-сакавіку 2001 г.);
- Прапанавана раённым арганізацыям разглядзець вынікі падпіскі на газету "Наша слова" за І квартал 2001 г.;
- Зацверджанне нормаў вылучэння дэлегатаў на абласную канферэнцыю:

| **Колькасць сяброў арганізацыі** | **3-10 чал.** | **11-25 чал.** | **26-50 чал.** | **Звыш 51 чал.** |
|---|---|---|---|---|
| **Колькасць дэлегатаў абласной канфер.** | **1** | **2** | **3** | **4** |

- Аб зборы подпісаў за стварэнне нацыянальнага універсітэта;
- Аб атрыманні новых пасведчанняў сябра ТБМ.

Менская абласная Рада вырашыла: правесці справаздачна-выбарчую канферэнцыю Менскай вобласці 1 красавіка 2001 г. а 13 гадзіне ў сядзібе ТБМ, што месціцца па вул. Румянцава, 13 (каля метро "Плошча Перамогі").

Шаноўныя сябры! Гуртуйма свае шэрагі дзеля святое справы: адраджэння нашай роднай мовы.

**Старшыня Рады ТБМ Генадзь Банкевіч.**

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД
### Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ

**6 - га сакавіка ў Лідзе пройдзе справаздачна-выбарчы сход Лідскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ імя Францішка Скарыны**

**На павестцы дня:**

**1. Справаздача старшыні Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**
**2. Справаздача старшыні Рэвізійнай камісіі.**
**3. Выбары новага кіраўніцтва арганізацыі.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1 Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 645 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча,ініцыялы)



№ 9 (497) 28 ЛЮТАГА 2001 г. наша слова

# ЗВАРОТ

## Рады дырэктараў беларускамоўных школ г. Менска да дырэктараў школ Рэспублікі Беларусь

Шаноўныя калегі!

Вам не трэба нагадваць, як за апошнія 5 год была разбурана беларуская школа. Гэта адбывалася на вашых вачах, пры вашай абыякавасці, а то і з вашай ініцыятывы. Сёння дэмагагічны лозунг аб свабодзе выбару мовы навучання прывёў да таго, што толькі 29% беларускіх школьнікаў навучаюцца па-беларуску, а ў гарадах гэты працэнт у 3-5 разоў меньшы. І гэта пры тым, што больш за 80% насельніцтва краіны згодна апошняму перапісу, зведвае беларускую мову за родную.

Гістарычная задача, якая выпала школе пасля 1991 года – гэта змяніць пакаленне савецкіх грамадзян на грамадзян Беларусі, што і адбылося бы праз 15-20 год, калі б не без вашай дапамогі антыбеларуская ўлада ў чарговы раз не згвалтавала беларускую школу. Пазбавіўшы дзяцей роднай мовы, вы проста пазбавілі вашых вучняў Радзімы.

Важнейшы клопат любой дзяржавы – нацыянальная школа, бо толькі яна фармуе ў дзіцяці пачуццё нацыянальнай годнасці, павагі да сваёй гісторыі і культуры і, урэшце, гадуе патрыёта сваёй краіны. Новае пакаленне, якое вучыцца ў нашых рускамоўных школах – гэта пакаленне не толькі пазбаўленае роднай мовы, сапраўднай беларускай гісторыі, а пакаленне без нацыянальнай і чалавечай годнасці, без Радзімы. Таму не трэба здзіўляцца спустошанасці юнацкіх душ, росту крымінальнай злачыннасці, нематываванай жорсткасці, сектанству, наркаманіі. І нішто не ў стане змяніць гэты важнейшы стрыжань душы – нацыянальную годнасць, патрыятызм, ні рок-канцэрты на Нямізе, ні БПСМ, у якога толькі назва беларуская, ні ліхаманкавая мітусня ў сённяшніх школах па адраджэнню савецкай піянерыі. Савецкім новае пакаленне ўжо ніколі не стане, але грамадзянамі непаўнавартаснай краіны з пачуццём нацыянальнай і ўласнай непаўнавартасці ўжо становіцца. Таму ўжо сёння больш за трэць беларускіх школьнікаў марыць з'ехаць з гэтай краіны, да якой няма любові і трапятання душы. Бо закладваецца гэта спрадвеку ў чалавека родным, матчыным словам. На жаль у Беларусі, напэўна адзінай у свеце, пытанне мовы са сферы культуралагічнай перайшло ў палітычную. Сённяшнія беларускія ўлады не настолькі наіўныя, каб гэта не разумець, і іх моўная палітыка вельмі выразная і адназначная. Які выбар яны прадастаўляюць, калі беларуская мова амаль выгнана з ВНУ, газет, тэлебачання, судовага і дзяржаўнага справаводства, усіх сфер ужытку. Пакінуты толькі некаторыя рэзервацыі ў галіне культуры для масавага каларыту. Але згвалціць школу без дапамогі дырэктарскага корпусу было б немагчыма. І мы на сваім уласным досведзе ведаем, як прынцыповая пазіцыя дырэктара школы можа пераканаць і настаўнікаў і бацькоў, стварыць адпаведную грамадскую думку і захаваць беларускую мову навучання. Што ж вы, шаноўныя калегі, нарабілі!.. Хто спалохаўся заняць грамадзянскую пазіцыю, хто проста абыякава, а хто і свядома сыпануў прыгаршчу ў магілу беларушчыны – перад будучыняй нацыі і краіны вы вінаваты аднолькава. У сённяшнім стане беларускамоўнага навучання вялікая доля віны дырэктарскага корпусу. Толькі зразумейце: ніхто і нішто не вечна. Як не вечна гэтая ўлада. І вы на свае вочы яшчэ ўбачыце і адраджэнне беларускай школы, і вяртанне незалежнасці краіны, і павагі да гордага беларускага народа з боку іншых народаў Еўропы і свету. Адбудзецца гэта з вашым удзелам, або не – сапраўды ваш выбар. Летась толькі 4% вучняў падрыхтоўчых класаў г. Менска атрымалі ў рукі беларускі лемантар. Ад вас залежыць, колькі іх будзе сёлета. Гэтая справа не дырэктыў кіраўнічых органаў, а вашага сумлення і адказнасці перад будучыняй краіны.

*Старшыня Рады дырэктараў беларускіх школ г. Менска Алесь Сядзяка.*

## Стан беларускага школьніцтва

### З выступлення А. Лозкі, прэзідэнта ТБШ

| Вучыцца | па-беларуску | % | па-руску | % | па-польску | % | па-літоўску |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У 1999-2000 н. г. | 463371 | 30 | 1081798 | 70 | 874 | 0,1 | 76 |
| У 2000-2001 н. г. | 435012 | 29 | 1062424 | 70,9 | 903 | 0,1 | 78 |

### Змяненні ў сетцы школ у 2000/2001 (1999/2000) н. г.

| | з беларускай мовай навучання | з рускай мовай навучання | з дзвюма мовамі навучання |
|---|---|---|---|
| г. Менск | змен няма (+5) | +13(+17) | -10 |
| Берасцейская | -4 (-8) | +2 (+19) | - 7 |
| Віцебская | -1 (+3) | +14 (+5) | - 17 |
| Гомельская | - 5 (- 9) | +4 ( +16) | - 12 |
| Гарадзенская | +4 (-5) | +4 (+3) | - 13 |
| Менская | -14 (-7) | +12 (+7) | -22 |
| Магілёўская | -5 (-6) | +5 (+4) | - 6 |
| Рэспублік. школы | змен няма | змен няма | |
| Разам | -25 (-27) | +54 (+117) | -87 (-97) |

### Дынаміка змяненняў удзельнай вагі вучняў, якія навучаліся на беларускай мове (%)

| | 1994/1995 | 1995/1996 | 1996/1997 | 1997/1998 | 1998/1999 | 1999/2000 | 2000/2001 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 21 | 17,7 | 15,4 | 13,4 | 11,2 | 9,5 | 8,4 |
| Берасцейская | 44 | 39,2 | 35,7 | 33,4 | 32,0 | 30,7 | 30,2 |
| Віцебская | 35,9 | 28,5 | 26,9 | 26,2 | 25,2 | 25,9 | 24,5 |
| Гомельская | 43,4 | 26,1 | 23,3 | 21,9 | 20,7 | 20,4 | 20,3 |
| Гарадзенская | 50,7 | 50,8 | 51,3 | 51,5 | 51,0 | 50,3 | 48,3 |
| Менская | 54,6 | 55,3 | 55,8 | 54,5 | 54,4 | 54,0 | 52,6 |
| Магілёўская | 34,6 | 27,5 | 23,8 | 22,6 | 22.1 | 22,9 | 21,6 |

### Дынаміка прыёму для навучання на беларускай мове (%)

| | 1994/1995 | 1995/1996 | 1996/1997 | 1997/1998 | 1998/1999 | 1999/2000 | 2000/2001 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| г. Менск | 58,0 | 19,5 | 12,1 | 7,3 | 5,3 | 4,3 | 4,3 |
| Берасцейская | 79,5 | 37,0 | 30,5 | 27,3 | 24,8 | 29,0 | 28,8 |
| Віцебская | 62,3 | 28,9 | 26,2 | 25,3 | 21,4 | 26,0 | 25,4 |
| Гомельская | 82,8 | 26,1 | 22,6 | 22,1 | 16,6 | 20,4 | 19,4 |
| Гарадзенская | 86,9 | 61,4 | 50,8 | 44,1 | 37,2 | 37,0 | 34,1 |
| Менская | 91,3 | 67,8 | 61,4 | 52,9 | 45,2 | 44,1 | 42,8 |
| Магілёўская | 65,1 | 25,8 | 22,9 | 23,0 | 19,9 | 22,4 | 22,3 |

---

"29" студзеня 2001 г. № 53

**Спадару Мясніковічу М. У.**
**Главе Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**
**# 38, вул.К.Маркса 220016 Мінск**

**Паважаны Міхаіл Уладзіміравіч!**

Мы ведаем Вас як чалавека, які нарадзіўся і вырас у беларускім асяроддзі ды не цураўся матчынай мовы.

У сувязі з гэтым здзіўляе той факт, што ўсе ўрадавыя канверты, якія адпраўляюцца з Адміністрацыі Прэзідэнта, аформлены толькі на рускай мове. Гэта не толькі парушае артыкул 50 дзейнай Канстытуцыі, але і зневажае грамадзян Беларусі (73,7 ад усёй колькасці), якія паводле апошняга 1999 года перапісу насельніцтва вызначаюць беларускую мову за родную. Дасылаем Вам узор афіцыйнага канверта, які мы атрымалі з Нацыянальнага сходу Беларусі. Спадзяемся, што ў новым стагоддзі ўрадавыя чыноўнікі будуць улічваць волю беларускамоўных грамадзянаў нашай краіны.

З павагай,
**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.**

---

Спадару Міхаілу Паўлаву
Старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта
**# 8, пр. Скарыны, 220050, Менск**

**Паважаны спадар Паўлаў.**

Таварыства беларускай мовы з прыемнасцю адзначае, што апошнім часам гарадскімі ўладамі праводзіцца значная праца па ўпарадкаванні нашай сталіцы, што пакрысе набліжае яе да горада еўрапейскага тыпу. У сувязі з гэтым ТБМ яшчэ раз звяртае ўвагу кіраўніцтва Менска на ролю і месца дзяржаўнай беларускай мовы ў гукавым і візуальным аздабленнем гарадскога асяроддзя. Як сведчыць досвед любой еўрапейскай дзяржавы, менавіта мова вызначае адметнасць і каларыт месца, па якім пазнаецца краіна. На жаль, пра Менск гэтага не скажаш. Прыкладаў – безліч. Звярніце хаця б увагу на шыльды, што на будынках пад нумарам 43, 44, 56, 58 па праспекце Францішка Скарыны.

Таварыства беларускай мовы займае ў гэтым пытанні прынцыповую дзяржаўную пазіцыю – прыярытэтам у афармленні горада павінна карыстацца беларуская мова, мова тытульнай нацыі. Так ёсць ва ўсім свеце. Так мусіць быць і ў нас, калі мы хочам каб нас пазнавалі, прызнавалі ды паважалі.

Ігнараванне беларускай мовы на транспарце, у рэкламе, у напісанні шыльдаў, назвах вуліц, аб'ектаў культурнага, сацыяльна-бытавога прызначэння ды іншых не робіць гонару гораду, у якім паводле апошняга 1999 года перапісу насельніцтва 61,9% менчукоў лічаць беларускую мову сваёй роднай.

Паважаны спадар Паўлаў, просім Вас сілаю нададзенай Вам улады вярнуць на вуліцы і плошчы сталіцы Беларусі беларускую мову – яе душу і нацыянальную адметнасць. Гэта будзе спрыяць ператварэнню Менска ў горад еўрапейскага тыпу.

Паведаміце нам, калі ласка, як і калі Менгарвыканкамам будзе наведзены парадак у гэтым вельмі надзённым пытанні.

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

---

**Спадару Казуліну А.У.**
**Рэктару Беларускага дзяржаўнага універсітэта**
**# 4, пр. Ф. Скарыны, 220050**

**Паважаны Аляксандр Уладзіслававіч!**

Мы ўважліва азнаёміліся з Вашым адказам ад 20.12.2000 г. на нашыя прапановы і нават надрукавалі яго ў газеце ТБМ "Наша слова", адзін асобнік якой дасылаем Вам разам з гэтым лістом.

З Вашага адказу мы зразумелі, што, нягледзячы на артыкул 50 дзейнай Канстытуцыі і на выніку апошняга перапісу насельніцтва 1999 г., паводле якога каля 74% грамадзян нашай краіны розных нацыянальнасцяў назвалі роднай мовай беларускую, Вы не жадаеце стварыць у Вашай установе беларускамоўныя факультэты і новыя плыні. Хаця па логіцы лічбаў перапісу прыкладна 25% студэнтаў могуць навучацца па-руску, астатнія – на роднай мове тытульнай нацыі.

Мы вельмі здзіўленыя таксама, што Вы аспрэчваеце нашу прапанову паэтапнага пераходу на беларускую мову навучання цягам 5 гадоў. Наколькі вядома, студэнты ў БДУ вучацца менавіта 5 гадоў, а не 2-3 ці 7-10, і таму Ваша іронія зусім не зразумелая.

Для таго, каб выканаць Вашую просьбу і на грамадскіх пачатках, без фінансавання, распрацаваць прыкладныя вучэбныя планы і праграмы для падрыхтоўкі беларускамоўных спецыялістаў у розных галінах, мы просім Вас паведаміць наступнае.

1. Колькі студэнтаў і на якіх факультэтах зараз навучаюцца па-беларуску? Іх планавая колькасць у 2001 – 2002 навучальным годзе?

2. Колькі выкладчыкаў, якія прадметы і на якіх курсах выкладаюць зараз па-беларуску? Колькі іх будзе ў наступным годзе?

3. Ці ёсць у Вас беларускамоўная магістратура, бакалаўрыят і аспірантура? Колькі кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый падрыхтавана і абаронена за апошнія пяць гадоў па-беларуску, па якіх дысцыплінах? Іх суадносіны ў параўнанні з рускамоўнымі дысертацыямі за гэты перыяд?

4. Колькі падручнікаў на беларускай і рускай мовах пабачылі свет у выдавецтве "Універсітэцкае" за апошнія пяць гадоў?

Пасля атрымання адказаў на гэтыя пытанні мы згодны супрацоўнічаць з Вамі і надалей пры ўмове, калі можна будзе ўбачыць рэальную перспектыву на бліжэйшыя гады, а не агульныя разважанні.

Нас вельмі турбуе гая сітуацыя, што ў апошні час склалася на філфаку, у выніку якой вядомыя даследчыкі ў галіне беларусазнаўства вымушаныя звальняцца з працы.

Нас таксама непрыемна ўразіў факт заснавання Вамі сумесна з нямецкім бокам цалкам рускамоўнай радыёстанцыі "Юністар – Радыё БДУ". Гэты ўчынак не робіць гонару першаму беларускаму універсітэту, які паўстаў у XX стагоддзі і быў у свой час флагманам беларускага адраджэння.

З гэтай прычыны ўзнікаюць меркаванні, ці не з'яўляецца яскравай ілюстрацыяй Вашых адносінаў да дзяржаўнай беларускай мовы і афіцыйны канверт БДУ, у якім Вы даслалі нам свой ліст: ён мае зваротны штамп-адрас толькі на рускай мове.

З павагай і надзеяй на далейшае супрацоўніцтва
**Старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.**



№ 9 (497) 28 ЛЮТАГА 2001 г. НАША СЛОВА

# Незвычайны юбілей

Прынята святкаваць "круглыя даты", юбілеі ці ўгодкі са дня смерці; святкаваць усё тое, што датычыць яскравых гістарычных постацяў ці іх неўміручых вычынаў. У лютым гэтага года зусім незаўважанай нашай грамадскасцю прамільгнула вельмі важная, а, можа, і лёсавызначальная дата ў гісторыі беларускай літаратуры. І тое, што няма таму пярэчанняў можа сведчыць толькі згаданне тае падзеі. 10 лютага 1911 года ў газеце "Наша ніва" ўпершыню быў надрукаваны верш у прозе Максіма Багдановіча, слыннага беларускага паэта, што стаў сімвалам нацыі, стаўпом беларускага Адраджэння ўсіх часоў.

Не лішне перачытаць яго нанава.

Я. П.

***Пэўна, любіце вы, пане, між страніц старых, пажоўклых кнігі, ужо даўно забытай, адшукаць сухі цвяток. Пабляднелі яго фарбы, ледзь трымаюцца лісточкі... Але колькі ён прабудзіць у сэрцы кволым пачуцця! Чаго вы цвяток хавалі, што жадалася, збылося, - усё цеплыве ў душы і збудзіць мілых згадак доўгі рой. У думцы зноў вы пражывеце безваротныя часіны, і для вас каштоўным стане гэты высахшы цвяток.***

***Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас, маленькіх, у час, калі мне надымала грудзі хваля пачуцця. І няхай яно з вас знікла, хай зблякнелі вы, засохлі, усё ж вы будзіце мне згадкі, і за гэта дзякуй вам. Не абміне і чытач вас. І ў яго калісь бывала мысль супольная з маёю, тая ж хваля пачуцця. Усё калісь перажытое пакідала след у сэрцы і ляжала нерухома цёмнай залежжу, пластом. Разварушыце ж, мае вершы, гэты пласт, хай згадка згадку кліча, цягне, хай чытач мой зноў былое пражыве!***

"Наша ніва", 10. 02. 1911 г.

## Беларуская мова ў даўнейшых дакументах

Гэты ўзнік у 1589 годзе, мае больш 400 гадоў і надрукаваны ў кнізе "Акты Гал. Літ. Трыбунала" пад назваю ***"Опись имения... Ошмянского повета, составленная при продаже его..."***. Ён напісаны на старабеларускай мове і мае цікавасць для настаўнікаў, вучняў, студэнтаў і іншых грамадзян.

Вось яго скарочанае гучанне. *"Рэестръ списанья именья земенина господарского повету Ошмянского Яроша... отчизное и матки его Ганны Селивестровны, прозываемога... у селе Ромашковъ в повете Ошмянскомъ лежачого, через межвозного (судовы чын – М.П.) Ошмянского повету Миколая Ромашка и при стороне двуосъ шляхтичовъ Микалаю Кодю и Петру Мишковичу, которое именейцо тотъ Ярошъ и тая Ганна... продали и на вечность спустили земенину... Веселовскому и малжонце его Альжбете, детемъ и потомкамъ ихъ милости и тую продажу свою... въмоцъ и въ держанье и уживанье са всеми пожитками (доходами), широкостями тое именейцо, яко зъ будованьемъ дворнымъ и зо всякими кгрунтами... через мене подали листъ свой (грамоту)... въ року теперешнемъ от нароженья Сына Божего тисеча пятьсот осмодесятъ девятомъ месяца Апреля.*

*Напервой меновите будованье: гридня с примномъ* (пакой з прыбудовай, сенямі – М.П.), *клети две, лазня съ примномъ, гумно рубленое, хлев рубленый; селишчо, огород овошчовый, навозы противъ дому... бочок на чотыри севбы житное въ границахъ и межахъ, лежитъ бокомъ однимъ при ниве Щепоновской, а другимъ бокомъ при дорозе изъ села Ромашковъ до сеножатей под Клевицы, концомъ однимъ до дороги изъ села Наркевичовъ до Кгравжишокъ логомъ за горою. А па другомъ месцы нивка ... на полъ бочки. А на третьемъ месцы нива, прозваная Соломеная... бокомъ аднымъ... к дорозе из села Ромашковъ до Клевицы, а другимъ концомъ до стежки, которою ходетъ до Чижелевъ. На четвертомъ месцы нивки две до стешки... прозываемые подъ Вишенкою. На пятом месцы нивка подъ плотомъ Войтеля... концомъ при дорозе до Щепановичъ – тое нивки на севальню... А семая нива лесъ зоросникъ... концами обема къ себреному лесу* (агульнага карыстання –М.П.), *при осиннику себреномъ... Мой реестръ... до книгъ кгродскихъ Ошмянскихъ далъ, а другий слово въ слово списавши далъ пану Веселовскому... Писанъ у именьицы въ селе Ромашковъ року 1589, власною рукою подписалъ".*

Тут таксама ўжываюцца назвы *Иванцовъ логъ, въкрижохъ, при лесе Шумборовскомъ, до лесу Лосевского, сеножать в Олешникахъ*, і др. мова рэестра тагачасная дзелавая, пісьмовая, а не народная, гутарковая. Відаць старацаркоўная аснова, але ў ёй шмат чыста беларускіх слоў: *Ганна, Мікалай, матка, лазня, будованье, сёмая, сцешка, под плотам, грунт, гай, жытное, хлев, меновита...*

Па словах былога старшыні Грайжынского сельсавета А. К. Аскіркі, у іх было невялікае сяло Рамашкоўшчына, людзі жылі там да 1960-х гадоў, але выехалі. На месцы маёнтка засталіся алея, трохі брукаванай дарогі.

***Міхась Пузіноўскі, г. Ашмяны.***

# Аповесць пра словы

### Пярун, пяро, пара, пярсцёнак, палец

Колькі гадоў назад "Наша слова" пачало друкаваць "Аповесць пра словы". Мне, як аўтару большасці артыкулаў, давялося выслухаць нямала крытыкі, што я парушаю ўсе нормы даследвання мовы і, будучы дылетантам у філалогіі не маю права пісаць у такім ключы, каб артыкулы пра словы нагадвалі навуковыя. І я часова вырашыў спыніцца. Пасля гэтага пайшлі звароты з просьбай прадоўжыць гэтую тэму. Тым не менш, я вырашыў узяць тайм-аўт каб асэнсаваць падыходы. Праз два гады я пераканаўся, што вялікіх памылак у тых артыкулах дапушчана не было і таму вырашыў працягнуць тэму.

Пачнём з вядомага ўсяму славянскаму і балцкаму свету слова Пярун. Пярун у славянскай міфалогіі – бог грому і маланкі, бог навальніцы. У балтаў ён носіць імя Пяркунас. Pierkunas у летувіскай мове абазначае гром і мае вялікае слоўнае гняздо, з чаго шмат хто з даследчыкаў робіць выснову пра запазычанасць слова ***пярун*** з балцкіх моваў і, нават, пра запазычанасць славянамі ад балтаў культу Перуна. Але гэтага быць не магло хаця б таму, што ўвесь перадхрысціянскі сонм багоў балты запазычылі ў славян. Магчыма некалі ў іх былі і свае багі. Але балцкія багі 2-га тысячагоддзя запазычаны ў славян. І нават галоўны вяшчун (волхаў, жрэц) у жмудзінаў меў назву (імя, тытул) Крыве-Крывейтэ, што абазначае "Крывіч Крывічавіч" і падкрэслівае паходжанне іх вешчуноў ад крывічаў і не ў адным пакаленні, спадчыннае паходжанне.

Гняздо словаў ад pierkunas у летувісаў багатае, але ўсё завязанае на значэнне гром. У беларусаў тут усё гняздо убіраецца ў адзін сказ: "Пярун уперыў". Але калі мы абстрагуемся ад значэння ***гром***, то знойдзем у беларускай мове шмат сугучных словаў са словам ***пярун***. ***Пяро, пярына*** і гэдак далей. На першы погляд ***пяро*** і ***пярун*** ніяк не звязаны. Сувязь можна надумаць, але прыдумка яна і ёсць прыдумка. Мы ж прывыклі абапіраць параўнанні і высновы на цвёрды моўны грунт. Таму ізноў прапускаючы ўсе фармацыі звернемся да санскрыту і паспрабуем з дапамогай гэтай мовы зразумець і значэнне слова ***пярун*** і іншых сугучных словаў.

Для тых, хто не чытаў папярэдніх артыкулаў патлумачу коратка, чаму мы будзем шукаць адказ у санскрыце. І беларуская мова і санскрыт адносяцца да сям'і інда-еўрапейскіх моваў. Санскрыт зафіксаваны ў пісьмовым выглядзе недзе 3000 гадоў таму назад, беларускую мову пачалі фіксаваць пісьмова гадоў 500 назад. За 2,5 тысячы гадоў адбыліся вялікія змены ў лексіцы ўсіх моваў індаеўрапейскай сям'і, а зафіксаваны пісьмова санскрыт ужо не мог змяніцца. Таму да яго з невялікай нацяжкай можна адносіцца, як да індаарыйскай першамовы і на ім арыентавацца ў пошуках.

Што мы бачым у санскрыце?

***Парама*** – вышэйшы, галоўны.

***Паратман*** – вышэйшы дух

***Парама–пумс*** – Вышэйшы Дух, эпітэт Вішну.

***Парджаня*** – воблака, дождж, ***бог дажджу.***

У аснове ўсіх гэтых словаў стаіць моўная форма ***пара-***, якая абазначае найвышэйшую ў сабе, крайнюю ступень. У нашую мову яна дайшла ў форме ***пера-***. Прыведзеныя санскрыцкія словы дакладна раскрываюць значэнне слова ***Пярун***, як ***Вышэйшага духа дажджу*** ці наогул Вышэйшага духу, які ***пера***важае над іншымі. Таму і не дзіўна, што Перуна ўзвялічвалі над іншымі багамі. Гэтае ўзвелічэнне ішло не па значэнні. Ярыла ці Велес маглі значыць і больш. Гэтае ўзвелічэнне было традыцыйным закладзеным у глыбокай старажытнасці. У грэкаў яно выразілася ў вобразе Зеўса, у нас у вобразе Перуна.

Форма ***пара–*** ў значэнні крайні дае нам у санскрыце слова ***парна***, што абазначае зубец сцяны, крыло, пяро, ліст (дрэва). Параўнаем з хецкім perunas - скала, зубец гор. Таму калі мы згадаем слова ***пярнаты*** і параўнаем яго з ***парна,*** то становіцца зразумелым паходжанне слова ***пяро***, як крайняга элемента крыла. Але тады і крайні элемент рукі палец павінен мець такое ж паходжанне. Так і ёсць старая назва пальца ***перст***. І тут форма ***пер -***. У беларускай мове ад ***пярста*** пайшло слова ***пярсцёнак***, у рускай – ***перчатки***, у летувіскай *pirstas – палец, pirstyne – пальчатка.*

Слова ***пара***, як газападобнае вада таго ж паходжання. Гэта найвышэйшая ступень вады. Старажытныя людзі ведалі што ***парджаня*** – воблака ўтвараецца з ***пары*** ў выніку вы***пар***энння вады.

Палец, як крайні элемент рукі мог атрымаць сваю назву ад тога ж слова, што і санскрытскае ***паляча*** – *ліст*, як крайні элемент галінкі дрэва. Але калі ***палец*** – ад ***паляча***, то адсюль і ***плячо*** і ***прадплечча***.

Вось што мы атрымалі, пачаўшы разглядаць слова ***Пярун***. А для крытыкаў мушу пазначыць, што я прагледзеў усе даступныя мне этымалагічныя слоўнікі на гэтую тэму.

### Ярыла, яркі, ворыва, ярмо, вясна

Ярыла другі з найбольш вядомых і шанаваных дахрысціянскіх беларускіх багоў. Сутнасць культу Ярылы, які і Перуна дастаткова добра вывучана беларускімі даследчыкамі, і я думаю, што пасля гэтых нашых публікацый пра Перуна і Ярылу мы атрымаем артыкулы з грунтоўнымі даследваннямі гэтых культаў. Мая ж задача значна прасцейшая – разабрацца з той інфармацыяй, якую дае лінгвістычнае даследванне гнязда словаў, у якое ўваходзіць слова ***Ярыла.***

У адпаведнасці з даследваннямі паганскай рэлігіі беларусаў... (дарэчы слолва ***паганскі*** не абазначае ***паганы, дрэнны бязбожны***, як яго ўспрымаюць, ***paqanus*** па-лаціне – ***сельскі, вясковы***. А стала гэтае слова абазначаць язычнікаў пасля перамогі ў Рыме хрысціянства, таму што пры перамозе хрысціянства ў Рыме і іншых гарадах на вёсцы заставалася старая рэлігія, якую і пачалі называць ***вясковай – paqanus***). Дык вось у паганскай рэлігіі беларусаў бог Ярыла займаў постаць бога вясны, сонца, урадлівасці, пладавітасці. Першае слова якое вяжацца з Ярылам – ***яркі***. Зразумела сонца вясной свеціць больш ярка. Далей ідуць словы: ***яравы, яравая пшаніца, ярына.*** Тут таксама ўсё зразумела. Уся ***ярына*** сеецца вясной. Таму іпастась Бога вясны вырысоўваецца яшчэ ярчэй.

Этымалагічны слоўнік Фасмера прыводзіць слова ***яра*** ў значэнні ***вясна*** і падае балгарскае дыялектнае ***яра - вясна*** і чэшскае ***jaro-вясна,*** але і тут у аснове гэтых словаў -- ***ярына.*** Нам жа трэба сутнасць і ***ярыны*** таксама.

Знаёмы з маімі артыкуламі чытач, пэўна чакае, што я зараз зайду ў санскрыт і ўсё стане ясна. Але на гэты раз справа выглядае некалькі не так. Пастаць Ярылы там не праглядваецца, што і не дзіўна. Вясна ў Індыі не настолькі актуальная, як у нас. Таму трэба меркаваць, што культ Ярылы (вясны) хоць і ўзнік у тыя далёкія часы, але значнасць сваю набыў некалькі пазней.

Сувязь жа кораня *-яр– (Ярыла, яркі, яравы)* з вясной мы можам канстатаваць незалежна ад культу Ярылы і магчыма датаваць значна больш раннімі часамі, пакolькі гэтая сувязь праглядваецца ўва ўсіх групах індаеўрапейскіх моваў. Так панямецку ***das Janr – год.*** Паавестыйску ***год-yara***, паготску ***год-jer,*** па-грэчаску ***opac - год, пара***. Па-колькі ў адпаведны перыяд першаснай гісторыі год пачынаўся вясной, то das Jahr – гэта прамежак часу ад вясны да вясны. Ну гэта нацяжка скажа любы мой апанент. Магчыма, але пяройдзем тады да мовы яшчэ аднаго старажытнага еўрапейскага этнасу, да адной з моў кельцкай групы, а менавіта гэльскай (ірландскай) мовы. Дык вось тут мы бачым: ***earrach –вясна.*** Праўда слова ***год*** там сфармавалася паводле іншага прынцыпу. Тым не менш жорсткую прывязку кораня ***-яр*** – да вясны мы знайшлі. Прывязаць то прывязалі, але што ў першааснове. Давядзецца ізноў звярнуцца да санскрыту. Тут усё, як звычайна, ***ara – руда, медзь, бронза; arakta – яркі, чырванаваты***. Сонца сапраўды нагадвае чырванаваты медны ці бронзавы дыск. І на ўсякі выпадак згадаем, што бог Сонца ў Егіпце меў імя Ра. Далей у санскрыце: ***arc-ззяць, выпраменьваць, arci, arcis-промень, полымя, arjuna-светлы, белы.*** І, нарэшце ***arka-промень, сонца, бог сонца***. Таму ў аснове слова ***Ярыла*** ляжыць прыметнік ***яркі***, ***светлы***, або дзеяслоў ***ззяць-arc***, або само слова ***arka-бог сонца*** што ніяк не пярэчыць значэнню ***бог вясны***.

Але разглядаючы карань ***-яр-*** мы не можам прайсці міма слова ***яр-круты глыбокі роў, разлом, вымоіна.*** на санскрыце ***jarjara-разломаны, разарваны, растрапаны. Jhari-рэчка, плынь.*** Яр і ёсць разлом, які застаецца пасля плыні, прычым, як правіла, пасля веснавой плыні, паводкі. Далей у нашых пошуках варта звярнуць увагу на асноўны элемент вясны. Што гэта за элемент. На розных этапах развіцця цывілізацыі ён, гэты элемент, розны. І ў розных цывілізацый розны. Але ў земляробаў асноўны элемент вясны гэта ворыва. але што такое ворыва, як не ламанне зямлі. І вось тут мы ізноў выходзім на карань ***-яр-***. Пяройдзем найперш у летувіскую мову. ***Jarti – узараць, узорваць.*** Ну а тут мы ўжо выходзім на нашае роднае беларускае слова ***араць.*** Этымалогія гэтага слова павінна быць дастаткова вывучанай. Проста мне мабыць не ўдалося ўбачыць гэтае даследаванне. Разам з тым з радасцю паведамляю, што ў слоўніку іншамоўных словаў яго няма. І то добра. Хаця зазірнуць у тыя мовы ніяк не лішне. Так на лаціне ***земляробства – aratio, arator – земляроб, селянін; aratrum – плуг.*** Трэба згадаць, што прыладу для ўзорвання зямлі часта і называлі ***арала.*** (параўнай Ярыла). Па-грэчаску ***араць-аргано (orqano).***

Нам засталося дадаць да гэтай групы словаў назву элемента да якога мацуюць гэтае самае арала, чым ***арала і маюць*** (бяруць) – ***ярмо.***

Вось так карань ***–ар- (-яр)*** праз тысячагоддзі мяняючы нацыі і мовы рухаўся па цывілізацыях, увасабляючы ***сонца і вясну.***

Само ж слова ***вясна*** прайшло з беларусамі праз тысячагоддзі амаль без зменаў. На санскрыце ***вясна – vasanta*** і паходзіць ад дзеяслова ***vas – жыць, жыць багата, жыць у раскошы; vasn – багацце, дабро, скарб.***

Які ўжо раз здзіўляешся логіцы нашых далёкіх прашчураў, якія не восень называлі залатой, а ***вясну*** вывелі ад слова ***багацце***, добра разумеючы што ўсё багацце закладваецца менавіта вясной.

***Станіслаў Суднік.***

Язэп Палубятка



*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

VI

... Сяргей Астапчык з прыўзнятым настроем ішоў на службу.

Ад "Станцыі хуткай дапамогі", якая мела асобны ўваход з раённай бальніцай, шпарка крочыў галоўны ўрач Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч.

Хірург Сяргей Астапчык прыпыніўся на хвіліну, каб павітацца са сваім начальнікам.

Прывітанне было шчырым і сардэчным, асабліва з боку начальніка.

— Што зубы скаліш, свісток! — Улановіч для лепшага ўзаемаразумення з маладым чалавекам стаў гутарыць на молодзевым жаргоне. — У цябе ў палаце чалавек дуба даў, а ты, піжон, зубы прадаеш.

Яшчэ ўчора ў тых палатах, у якіх ляжалі хворыя хірурга Астапчыка, ніхто не збіраўся пакідаць гэты свет, і ад такога нечаканага прывітання Сяргей сумеўся, адкінуў усе думкі пра вячэрні флірт.

Небараку хворага Астапчык не ведаў, а тая палата, дзе ён памёр, лічылася за доктарам фармальна і практычна ён да яе не меў ніякага дачынення. Галоўны ўрач нават забараніў яму туды і блізка падыходзіць.

— П'яніца. Дурань адзін тут з "Хуткай дапамогі" падабраў яго на вуліцы. Які міласэрны алкаголік знайшоўся! У самую лепшую палату ўкінуў, як брата свайго. А той узяў і сканаў. Памёр. Зразумела табе!

Астапчык запрэтэставаў — лепей маўчаў бы! — і адразу пашкадаваў аб гэтым.

Мерапрыемства пад гучнай назвай "лятучка", якую кожны працоўны дзень праводзіў галоўны ўрач раённай бальніцы, звычайна працягвалася больш за гадзіну, але пачатак заўжды быў а палове дзевятай. Тыя, каму пашанцавала спазніцца мелі вялікія непрыемнасці. Калі б цывілізаваны еўрапеец выпадкова патрапіў сюды, то падумаў бы, што прысутнічае на свяшчэнным абрадзе афрыканскага племені, пра якое яшчэ не ведае навука.

Прысутнічалі тут шматлікія намеснікі галоўнага. Прысутнічалі таксама кіраўнікі дапаможных гаспадарчых службаў. Тут не было гутаркі пра тое, як лячыць. Уся размова была пра тое, каму, дзе і як дастаць, узяць, прынесці, прывезці, паднесці, забяспечыць. І так штодня ...

Гэтая лятучка была самай кароткай з усіх, якія праводзіў Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч.

Людзі, сабраўшыся ў зале паседжанняў, ужо ведалі, што галоўны сёння не мае настрою, і рыхтаваліся да карыды мясцовага значэння: слабанервовыя затыкалі вушы скарбовай ватай і клалі пад язык скарбовы валідол.

Улановіч ніяк не мог супакоіцца пасля шчырай размовы з першым сакратаром райкама партыі, сардэчнай размовы з каханай і выхаваўчай працы з былым сябрам і падначаленым. Ён проста ўляцеў у залу, але не паспеў сказаць свае вечнаветлівае: "Нарэшце, вы сабраліся", як зноў адчыніліся дзверы і на парозе з'явілася двое: саракагадовая прыбіральшчыца Ганна і трыццацігадовы сантэхнік Жорык. Каханне, як нам усім вядома, не глядзіць на ўзрост.

Ганна неахвотна адступала перад сантэхнікам і радасна шчабятала: "Ты што! ... Ты што! .." Жорык не глядзеў у бакі, а хуценька зачыніў нагою дзверы, схапіў сваю ахвяру рукамі, прыціснуў моцна да сябе і ... з пацалункам забыўся пра ўвесь белы свет.

Усім нам вядома, што над калекамі, хворымі і закаханымі смяяцца вялікі грэх. Сяргей Астапчык добра ведаў гэта, бо быў камсамольцам (праўда, апошні год) і да кахання ставіўся сур'ёзна, але тым не менш яго пацешыла тое, што прыбіральшчыца пад час такога святога дзеяння, як пацалунак, не выпусціла з рук анучу.

Сяргей рассмяяўся. Яго дружна падтрымалі калегі. Людзі, якіх засталі знянацку за такою сур'ёзнаю справаю, вядома, уцяклі, а медыцынскія работнікі ніяк не маглі супакоіцца — смяяліся шчыра і доўга. Толькі крык урача "Станцыі хуткай дапамогі" Марыі Сяргееўны: "Банкевіч павесіўся" спыніў гэты смех.

Марыя Сяргееўна закрычала так, каб нагнаць страху на галоўнага ўрача.

Страху яна сапраўды нагнала. Улановіч збялеў і дрыготкім голасам прамовіў:

— Усе вольныя.... Калі Улановіч прыбег на станцыю, там усё ўжо скончылася. Банкевіча падняглі з унітаза, знялі з шыі гумавы шланг, зрабілі неабходны ўкол і ... на скарбовай машыне адвезлі дахаты.

Пасля лятучкі Сяргей Астапчык вырашыў патэлефанаваць сваёй былой пацыентцы і даведацца пра стан здароўя, а ўрэшце прызначыць і спатканне. Астапчык рабіў смелы крок. Былая пацыентка звярталася да яго з такімі прапановамі даўно, але Сяргей прымаў іх за звычайны жарт. Са свайго кабінета ён патэлефанаваць не мог. Там сядзела ўжо медыцынская сястра, і ніякай гутаркі пра спатканне не магло быць. Падобная справа заўжды таямніца для іншых, а тым болей для жонкі.

Сяргей Астапчык мудра палічыў, што тэлефон-аўтамат зможа надзейна паслужыць яму. У калідоры хірургу трапіўся міліцыянер, які гаротна плакаў. Яго суцяшалі некалькі хворых, але дарма: па шчаках ручаямі цяклі слёзы, а пад носам адна за адной выдуваліся булькі. Доктар на хвіліну прыпыніўся.

Сёння, як і ўчора, лейтэнанту Піліпчуку не шанцавала. Яшчэ зранку яго выклікаў да сябе начальнік аддзела ўнутраных спраў раёна і запатрабаваў тлумачальную запіску. Затым яму была аб'яўлена строгая вымова за нядбайнае выкананне сваіх службовых абавязкаў. Начальнік, вядома, чалавек сур'ёзны! Заяву на водпуск, якую падаў яму Піліпчук, ён адразу ж разарваў і паабяцаў лейтэнанту, што той пойдзе ў водпуск, калі паляцяць "белыя мухі".

Хто і што можа суцешыць чалавека ў такім выпадку?

Доктар Астапчык пагладзіў міліцыянера па галаве і пайшоў.

Прыемны галасок сказаў: "Ал-лё!". Для большай упэўненасці Сяргей хацеў запытаць: "Гэта Наташа?", але толькі сказаў: "Гэта Н..." і змоўк. У кроку ад яго стаяў Наташын муж і глядзеў на Астапчыка сваімі блакітнымі вачыма. Мілы галасок паўтарыў у трубцы сваё "ал-лё", але ўжо менш лагодна і больш патрабавальна. Сяргей разгубіўся, а тым часам блакітныя вочкі, не міргаючы, працягвалі глядзець на яго. Голас у тэлефоннай трубцы рашуча запатрабаваў: "Што ты хочаш?". Сяргей адчуў, як ад страху ў яго пачала дрыжаць рука, што трымала слухаўку і, каб не выдаць свайго хвалявання, ён падтрымаў яе другою рукою, напружана думаючы, што сказаць, як выйсці з гэтага становішча. Пад зацікаўлены позірк блакітных вачэй у галаву нічога не прыходзіла. На тым канцы тэлефоннай лініі болей не сталі чакаць адказу і заміж пяшчоты пачулася звычайнае: "Дурань" і кароткія гудкі.

Нягледзячы на тое, што яго аблаялі, Астапчык уздыхнуў з палёгкай. На сінія вочкі ўжо не звяртаў увагі, павесіў трубку на рычаг і пайшоў. Ззаду пачуўся ўзбуджаны шэпат.

— Звані хутчэй, пакуль гэты гарлапан не выжлукціў нашу долю. Ён такі, я яго ведаю!

Хірург Астапчык прабіраўся праз шчыльны натоўп хворых, якія тоўпіліся ў калідорах ля кабінетаў, і нечакана быў спынены жанчынаю яго ўзросту, даволі такі тоўстаю і мажною. Яе тварык меў даволі прывабны выгляд: кроў з малаком, як кажуць людзі. Маладзіца была апранута ва ўсё джынсавае. Ад яе прыемна пахла парфумай, а на ўсіх пальцах блішчэлі залатыя пярсцёнкі. На шыі кабеты вісеў коштам у некалькі сотняў рублёў залаты ланцужок. З-за шырокіх плячэй джынсавай маладзіцы выглядвала старэнькая і худая — скура ды косці — жанчына, апранутая ва ўсё чорнае.

— Доктар, — маладая жанчына гаварыла мякка, лагодна, пяшчотна і шчыра. — Нам параілі звярнуцца да вас.

— Слухаю вас, — як звычайна, не спыняючы крок, сказаў Астапчык і зрабіў выгляд, што ён вельмі заняты.

Джынсавая жанчына не адставала ні на крок. Не адставала і старэнькая бабуля, нягледзячы на тое, што ёй хуткая хадзьба давалася цяжка.

— Мы да вас наконт Ванькі Бубянцова ...

— Не ведаю такога. Гэта ваш сын? Што з ім?

— Ой, даруйце доктар! Івана Бубянцова. Ён даводзіцца мне мужам .. . Даводзіўся ...

На прыёме ў доктара сёння было, як ніколі, шмат людзей. Ён прайшоў каля чаргі і нават не глянуў на яе. Ён не глянуў на твары людзей, якія прыйшлі да яго прасіць дапамогі, і мелі б за шчасце сустрэцца з ім позіркам.

Услед за Астапчыкам у кабінет зайшла маладая кабета, а чарга загула:

— Сваіх водзіць.

Старую жанчыну не пусцілі зусім: адзін з хворых даў ёй зразумець, што ў гэты кабінет яна зможа трапіць толькі цераз яго труп. Паміраць ён зусім не збіраўся. Слёзы старэнькай бабкі не знайшлі ў хворых ні падтрымкі, ні спачування.

— Скажыце, доктар, мой муж памёр?

— Я вас не разумею, шаноўная. Хто памёр?

— Як хто? Ванька ... Даруйце, доктар ... Іван Бубянцоў памёр? — жанчына ўвесь час гаварыла лагодна.

— Хоць зарэжце мяне, але я не ведаю ніякага Ванькі ... Даруйце, Івана Бубянцова ...

— Як гэта вы не ведаеце? Яго п'янага на вуліцы ўчора падабрала "Хуткая дапамога", а сёння нам людзі сказалі, што ён ноччу памёр.

Нарэшце Астапчык зразумеў, пра каго вядзе гаворку жанчына.

— Да хворага, які памёр, я не маю ніякага дачынення. І ўсё тое, аб чым вы мне гаварылі, чую ўпершыню ... ад вас.

— Ну як жа так, доктар! Вы жартуеце ці можа вы мяне за дурніцу лічыце, якую можна пасылаць з пакоя ў пакой? — у адно імгненне жанчына раззлавалася. — Я была ўжо ў гінеколага, тэрапеўта, акуліста, анколага. Была ў старэйшай медыцынскай сястры. І ўсе мяне кудысці пасылаюць. Я была нават у галоўнага ўрача. Гэта ён мяне накіраваў да вас. А вы мне тут кажаце, што не маеце ніякага дачынення да майго Ванькі ... Даруйце, Івана Бубянцова.

Астапчуку стала млосна: ён цяжка ўздыхнуў і сеў на край стала.

— Скажыце, доктар! Мой муж сапраўды памёр? — цяпер ужо твар у жанчыны быў падобны на колкі асклепак і меў непрымірымую рашучасць. Пытанне, з якім яна звярнулася, павінна было вырашана тут і, менавіта, зараз.

Доктар не ўмеў пярэчыць жанчынам. Іх катэгарычныя пытанні прымушалі яго кожны раз нерваваацца.

Ад розных непаразуменняў учарашняга і сённяшняга дня, ад непатрэбных хваляванняў і стрэсаў, неабходнасць якіх так імкнуцца даказаць вучоныя, у Астапчыка пачала трэсціся галава. Ён стараўся гаварыць спакойна, але тым часам стаў губляць кантроль над тым, што гаварыў.

— Як гэта здарылася, цыпанька мая?

Гэтае пытанне было адрасавана медыцынскай сястры, што была тут. Пяцідзесяцігадовая жанчына здзіўлена глянула на маладога доктара і разгублена пацiснула плячыма.

Джынсавая жанчына раптам упэўніла сябе ў тым, што яе Ванька Бубянцоў недзе ўжо ў раі ды п'е на брудэршафт з апосталам Пятром, і не на жартачкі рахвалявалася. Перад ёю адкрыліся неабсяжныя далягляды свабоды, і яе чыстае паветра зусім замуціла галаву Зіне Бубянцовай.

— Якое шчасце, доктар! Якое шчасце! Доктар, я ўпэўнена, што гэта так. Якое шчасце! Я цяпер магу свабодна жыць з мужчынамі. З кім пажадаю! Які цуд! Ведаеце, доктар, у мяне столькі кавалераў, але я да гэтага часу ні з кім не была, ні з кім ... Усё цярпела ... А цяпер можна. Якое неспадзяванае шчасце!

Ад такой сардэчнай шчырасці джынсавай удавы ў доктара пачалі падымацца ўгару валасы, а ў медыцынскай сястры ад пачутага растапырыліся і падаліся ўперад вушы.

Звычайныя чалавечыя мазгі такой сардэчнай шчырасці не прымаюць.

Доктар у роспачы абхапіў галаву рукамі і ад бездапаможнасці гаркнуў жарт, якім ён пацяшаў сяброўак, калі быў яшчэ студэнтам.

— Скажыце, сястра, хворы перад смерцю пацеў?

— Доктар! Мой любы доктар! Пры чым тут гэта: пацеў ці не пацеў. Здох Ванька Бубянцоў і ... якое шчасце. Я цяпер удава. У-да-ва! Цяпер я магу калі захачу і з кім захачу і ні адна б ... (так было сказана!) не мае права сказаць пра мяне благое слова. З кім захачу! Вось што галоўнае. Разумееце вы мяне, доктар: хоць з вамі. Вы ж такі прыгожы!

Жанчына рашуча падалася ўперад, а ў гэты момант верхні гузік на блюзцы, што прыкрывала тугія грудзі, не вытрымаў такой колькасці пачуццяў і расшпіліўся: вялізныя бугры Венеры гатовы былі прыняць першага альпініста.

— Сястра, вады! — прашаптаў Астапчык і споўз са стала на падлогу.

Шумна глыкаючы ваду, ён з замілаваннем глядзеў на тоўстыя жаночыя ногі, якія бачны былі пад сталом яму. Шклянка вады вярнула Астапчыка да рэчаіснасці — сумнай і смешнай.

— Сястра! Збегайце па Скрыбнікава. Гэта яго спецыялізацыя. Жанчыну трэба неадкладна ў псіхіятрычку.

— Мяне ў псіхушку?!! — джынсавая жанчына злосна хмыкнула. — Я ж разумнейшая за вас усіх. Здох Ванька Бубянцоў, і дзякуй Богу. Цяпер я проста вытуру сваю свякрушку і буду — баба з хатаю. Жаню на сабе таго, каго пажадаю. Ды што тут казаць. Хіба ты, казёл, гэта зразумееш усё! - Джынсавая ўдава нават не зашпілілася, а з горда ўзнятаю галавою пакрочыла па бальнічным калідоры. Хворыя хуценька разбягаліся ўбакі. Ззаду яе прыспявала старэнькая жанчына, якая несуцяшальна плакала.

VII

Антон Пятровіч Крыніца напружана чакаў.

Яму, як нішто на свеце, патрэбна была гісторыя яго няіснай хваробы, патрэбны быў дыягназ, каб тая камісія, калі прачытае яго, заплакала. Ляпей было б, каб прачытаўшы ў абкаме, пачалі збіраць грошы на вянок. "Патрэбен такі дыягназ, — разважаў Крыніца, — каб кожны пазайздросціў нябожчыкам, а нябожчыкі палічылі пекла раем".

Пасля таго, як з палаты выйшаў галоўны ўрач, Крыніца адразу стаў пільна глядзець на дзверы, бо быў упэўнены, што праз мінуту-другую яны адчыняцца і на парозе, засопшыся і ўвапрэўшы, з'явіцца той, хто будзе яго лячыць, хто зможа напісаць такую страшную гісторыю яго хваробы і паставіць такі дыягназ, ад якога яму стане так лёгка на сэрцы, адразу знікнуць усе хваробы, з зайздрасці памруць яго ворагі і... вышэйшае кіраўніцтва пакіне яго на гэтай пасадзе да таго часу, пакуль ён сам не аддасць богу душу, а чорту цела.

У Крыніцы быў воўчы апетыт. Яму вельмі хацелася даесці смажаную качку і дапіць такое смачнае імпартнае піва, але страх, што сюды зойдзе незнаёмы чалавек, прымушаў яго цярпець.

Так прайшлі ў напружаным чаканні бясконца доўгія пятнаццаць хвілін, але ў палату ніхто не заходзіў. Гэтыя абставіны страшна здзівілі Крыніцу — яго ніхто не прымушаў так доўга чакаць.

*( Працяг у наступных нумарах).*

